# Новы стаіцызм

**Ігар Бабкоў**



Жыцьцё зноў пачало гарчыць, недзе зь вясны, калі безнадзейнасьць дасягнула максымальнага пункту, калі пачаўся рэальны супраціў. «Што рабіць?» — пытаюцца сябры, знаёмыя, прыяцелі. Пытаньне з прысмакам хініну, як быццам падчас усеагульнай ліхаманкі, ад якой мы абавязкова мусім ратавацца. Пытаньне для саміх сябе, амаль што без пытальнага знаку напрыканцы, пытаньне як спускавая кнопка, пасьля якой як у калейдаскопе: дэманстрацыі, змаганьне, амон. Снайпэры, гранатамёты. Героі, здраднікі.

Зрэшты, усе, хто пра гэта пытаюцца, і так нешта робяць. Таленавітыя журналісты, бізнэсмэны, літаратары. Яшчэ ніколі яны так шмат, так эфэктыўна не рабілі. Яшчэ ніколі рэсурсы іхняга таленту не былі такія вялікія, — і такія магчымыя. Адкуль тады пытаньне? Чаму ўсе пытаюцца, што рабіць?

Магчыма, усе нарэшце адчулі, што жывуць у рэальнай краіне. Са сваім лёсам. Лёсам, які закранае нас усіх. Разам. Які творыць з нас калі й ня нацыю, дык хаця б супольнасьць. Што гэта нашыя гады праходзяць у гэтым калектыўным пост-савецкім трызьненьні, якім ёсьць сёньняшняя Беларусь. Гэта нам даводзіцца зноў бачыць прадажныя пысы, ліслівыя вочкі і гебэльсаўскую рыторыку калябарантаў рэжыму. І ўсе раптам зразумелі: пытаньне ня ў тым, што будзе зь імі (лукашэнкамі, электаратамі, трактарамі, рэйтынгамі, сяўбой), а ў тым, што будзе з намі.

Неяк аднолькава, у Менску ці Будапэшце, Варшаве ці Брусэлі, людзі ад улады нас пераконваюць: вы — танюсенькая праслойка эліты, а вось народ — за лукашэнку (варыянты — узьяднаньне з Расеяй, супроць дэмакратаў, супроць рынку й г.д.). Вы — маргіналы, кажуць яны і праходзяць побач, спрабуючы не заўважыць, адсунуць, маргіналізаваць. Напраўдзе, што будзе з намі, «з гэтай танюсенькай праслойкай»?

Мы ня мусім даць падмануць сябе гэтай лёгікай. Гэта лёгіка нігілізму, у самым брутальным сэнсе. Адзін свабодны чалавек важыць на вагах гісторыі больш, чым сотня тысячаў рабоў. Адзін талент важыць на вагах жыцьця невымерна больш, чым сотня тысячаў бяздарнасьцяў.

А што ён можа, ваш вольны чалавек, — адказваюць нам. Хіба ён можа зьмяніць што-колечы ў гэтым трызьненьні, якое само сябе «выбрала»? Ці не прасьцей шчыра прызнаць, што вы памыліліся з народам, з краінай, з часам і прасторай? Ці не прасьцей зьехаць, эміграваць? Ці вы хочаце правесьці лепшыя гады жыцьця сярод савецкага плебсу, дапалага да ўлады?

Я ня ведаю, што адказаць на гэтыя пытаньні. Ці, лепш сказаць, мне нават ня хочацца адказваць. Я адчуваю гэтую лёгіку, гэтыя пытаньні як новую спакусу, — і новую пастку. Я маю патрэбу сфармуляваць (для самога сябе) — для чалавека, які не зьяжджае — новы этас і новую эстэтыку — культурнае апазыцыі й культурнага супраціву.

Назавем гэта новым стаіцызмам.

Рэч у тым, што напрыканцы дваццатага стагодзьдзя абгрунтаваць анталягічна якую-колечы этыку (ня кажучы ўжо пра эстэтыку) немагчыма. Асабліва этыку, якая ўсьведамляе сябе насуперак галоўнай плыні. Як этыка апазыцыі. Можна зрабіць выбар у кірунку ўласнай свабоды, але немагчыма абгрунтаваць свабоду, асабліва для тых, хто ніколі не адчуваў ейнага паху.

Так, этыка апазыцыі — гэта ўласны, экзыстэнцыйны выбар свабоды ў сытуацыі, калі большыня згодная да выбару новага рабства. Гэта выбар бескампраміснага тут-існавананьня, калі большыня пачынае паціху ўсьведамляць вартасьць новых кампрамісаў.

Рэч яшчэ і ў тым, што беларуская культура аніколі не выбірала менавіта свабоду. Выбіралася перш за ўсё Беларусь, а ўжо якая яна — гэта праблема другога гатунку. Будзе Беларусь, а ўсё астатняе прыдасца. Не прыдаецца. У выніку адбылася карозія вартасьцяў. Рэжым Лукашэнкі толькі й мог паўстаць у краіне, у якой адна частка насельніцтва выбірае Беларусь без свабоды, а другая — свабоду безь Беларусі. Рэжым Лукашэнкі — гэта прарыў на паверхню падсьвядомасьці Беларусі, даўгі час рэпрэсаванай, загнанай на ўзровень плебсу, разбэшчанай і небясьпечнай. Яе ўжо немагчыма загнаць назад. Яе ўжо немагчыма пераканаць у вартасьці нейкіх правілаў гульні, у тым, што яна мусіць, альбо ёй выгадна рабіць нешта. Яна адразу адчувае гэта як слабасьць.

Цень немагчыма зьнішчыць аргумэнтамі на карысьць ейнай нявартасьці. Яна зьнікае ў выніку прысутнасьці сьвятла.

А хто вы зрэшты такія, — пытаюцца ЯНЫ, — каб лічыць сябе «сьвятлом»? Ці ня сьмешна ўсё гэта? Ці не завысока вы сябе ставіце?

Мы разумеем, хто мы такія, калі робім свой выбар. Калі мы верым у свой выбар. Магчыма, ад усіх гэтых часоў толькі й застанецца ў памяці цыкль вершаў, турэмны дзёньнік ды недапісаны раман. А зусім ня той, хто «хоча зрабіць сваё трызьненьне сном многіх».

Можна толькі ад-стойваць і выстойваць. Сваё найменьне стоікі атрымалі цалкам выпадкова, ходзячы падчас развагаў між калёнамі. Цалкам выпадкова ў беларускай мове слова стаіцызм вядзе за сабой гэты шэраг: стаяць, выстаяць, адстаяць. Перш за ўсё адстаяць саміх сябе. Свой выбар. Сваю свабоду.

"Наша Ніва" незалежны тыднёвік НАША НІВА
заснаваны ў 1906, адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец Павал Жук
рэдактар Сяргей Дубавец
адказны сакратар Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі
навіны Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" Андрэй Лапцёнак
макет Віктар Корзун
дызайн і вёрстка Лявон Раманчык
набор Тацяна Чуйвід
стыль Антон Кузьміч
карэктура Сяргей Сматрычэнка пры ўдзеле Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36)
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ 220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 239-78-49
E-mail: edit@niva.minsk.by
Падпісны індэкс 63125
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі перыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Працяг са старонкі 1.

С.Ш.: Я ня ведаю, каму гэта выгадна, бо ня ведаю, хто гэтую правакацыю зрабіў. Я падаў пісьмовую заяву ў дзяржаўныя органы, каб яны высьветлілі, хто гэта зрабіў і каб прынялі нейкія меры. Якая ж гэта дзяржава, калі чалавека можна абразіць, правакацыі на яго пісаць?! Гэтак сама ўсё пачыналася і калісьці. А дайшло да таго, што толькі ў магілёўскай вобласьці з дваццатага да трыццаць восьмага году было рэпрэсавана дзьвесьце тысяч чалавек. Вось па такіх паперках, па такіх лістах, які я сёньня атрымаў. Я абвінавачваюся ў тым, што нібыта нейкія амэрыканскія кампаніі мяне фінансуюць для таго, каб я праводзіў праз Вярхоўны Савет нейкую падрыўную дзейнасьць у дзяржаве.

**«НН»: Ці зьяўленьне такога ліста напярэдадні чарговай сэсіі нейкім чынам паўплывае на ўзаемадачыненьні паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі?**

С.Ш.: Думаю, што нашы дэпутаты разумнейшыя, чым гэты правакатар. Я ня думаю, што ў нашай выканаўчай уладзе ёсьць настолькі прымітыўныя людзі, якія б маглі паверыць гэтай «ліпе». Дарэчы, пісалі ліст дзевятнаццатага, адпраўлялі дваццаць трэцяга. Пісалі, я думаю, у Менску, адпраўлялі ў Варшаве. Чакалі чатыры дні, адпраўляць ці не.

**«НН»: Пра што, на Вашую думку, сьведчыць ігнараваньне прэзыдэнтам «круглага стала» прадстаўнікоў партый і прафсаюзаў?**

С.Ш.: Пра гэта трэба спытаць у прэзыдэнта. Я толькі магу сказаць, што я пайшоў на «круглы стол» і сеў разам з БНФ, таму што бачу, ёсьць большы вораг. З БНФ мы разыходзімся ў нейкіх пытаньнях, і я гэта кажу, я крытыкую іх. І яны са мною ня згодныя. Але справа ў тым, што законы пачалі парушацца кожны дзень. Дарэчы, калі зьявіліся

## Сямён Шарэцкі: Я сеў за адзін стол з БНФ

такія правакацыі, як гэтая супраць мяне, то чаго далей чакаць? Канцлягера? Таму ўсіх, хто прыйшоў і сеў за круглы стол, аб'яднаў адно клопат пра будучыню, супраціў прававому «беспределу», які мы бачым сёньня ў краіне.

**«НН»: Чаму раней дэпутаты гэтага «беспредела» быццам не заўважалі?**

С.Ш.: А што яны павінны былі прыйсьці і адразу браць сякеру? Яны ж спрабавалі наладзіць працу Вярхоўнага Савету, узаемаадносіны з выканаўчай уладай і ўсё рабілі дзеля гэтага. Яны ж самі не парушалі ніякіх законаў. А там, дзе законы парушаліся... На тое ёсьць Канстытуцыйны Суд. І ён адзначыў шаснаццаць парушэньняў Канстытуцыі з боку прэзыдэнта.

**«НН»: С.Багданкевіч на «круглым стале» казаў пра тое, што сытуацыя ў краіне блізкая да канфлікту, што, на ягоную думку, вельмі верагодны разгон Вярхоўнага Савету. Як вы лічыце, гэткі варыянт разьвіцьця падзеяў магчымы?**

С.Ш.: Я ня ведаю, я ня думаю, што дойдуць да такой ашалеласьці, што будуць разганяць Вярхоўны Савет, які не парушае ніякіх законаў.

**«НН»: Спадар Шарэцкі, некаторыя сьцьвярджаюць, што Вы пачуваецеся больш рашучым, вольным у выказваньнях, калі побач няма прэзыдэнта.**

С.Ш.: Ну, гэта так хацелася б правакатарам. Я выказваюся вольна і тады, калі ёсьць прэзыдэнт. Сёньня ж ён ёсьць, а мы з вамі гаворым.

**«НН»: Як вы лічыце, чаму прэзыдэнт ня хоча прыходзіць на сэсіі ВС?**

С.Ш.: Ну, гэта трэба ў яго спытаць. Вось вы як лічыце, чаму?

**«НН»: Пэўна, трымаючы пры сабе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі і фінансуючы сілавыя структуры, ён можа сабе гэта дазволіць.**

С.Ш.: Ну, думайце так. Але ж ён абавязаны ісьці ў Вярхоўны Савет, таго патрабуе Канстытуцыя. Ён абавязаны ісьці, таму што толькі Вярхоўны Савет вызначае ўнутраную і зьнешнюю палітыку нашай дзяржавы. Ён павінен ісьці і дакладваць гэтую палітыку.

**«НН»: Канстутыцыйны Суд адзначыў шаснаццаць парушэньняў Канстытуцыі ўказамі прэзыдэнта. Гэта сьведчыць пра абсалютную няўвагу зь яго боку да дзяржаўных інстытутаў.**

С.Ш.: Ізноў жа, гэта трэба ў яго запытаць, чаму ён так робіць.

**«НН»: Спадар Шарэцкі, вы родам зь мястэчка Лаўрышава, вы зямляк слыннага пэрсанажа беларускай гісторыі Вялікага князя Войшалка. Вы зьбіраліся ўшанаваць ягоную памяць на радзіме...**

С.Ш.: Першага верасьня помнік Войшалку будзе адкрыты. Ён ужо стаіць. Я буду прысутнічаць на адкрыцьці.

# Дзе ляжыць Беларусь?

*Дыскусіі вакол прызначэньня новага польскага пасла*

Надзвычай доўгую, большую, за год адсутнасьць польскага пасла ў Менску можна ацаніць як прыкмету складаных адносінаў паміж дзьвюма суседнімі дзяржавамі, а таксама як рэакцыю на таксама доўгую адсутнасьць беларускага пасла ў Варшаве пасьля зьняцьця Георгія Таразевіча. Ня так даўна сп. Бурскі заняў месца гаспадара ў рэзыдэнцыі беларускага пасла на вул. Атэнскай, а 27 жніўня гэтага году сэймавая камісія замежных справаў нарэшце абмеркавала кандыдатуру польскага пасла ў Беларусі.

Гэтае абмеркаваньне адбывалася ў досыць камэдыйнай абстаноўцы й нагадвала невялічкую рэпрызу. Усё пачалося якраз тады, калі прадстаўленая міністрам замежных справаў Дарыюшам Расаці кандыдатка на пасаду пасла Эва Спыхальска адчытала з паперы невялічкі рэфэрат на тэму Беларусі. Апроч усяго іншага, спадарыня кандыдатка сьцьвердзіла, што яна едзе «ў краіну, якая ляжыць паміж Бугам і Одраю». Вось пасьля гэткіх словаў дэпутат сэйму ад правай Канфэдэрацыі Незалежнай Польшчы (KPN) заявіў: «Межы шаленства пяройдзены!» Па сьлядах абмеркаваньня Gazeta Wyborcza 28 жніўня надрукавала мапку з красамоўным загалоўкам: «Дзе ляжыць Беларусь».

Адной з найбольш дыскусійных праблемаў на сэймавай камісіі быў фактар беларускае мовы, якой Эва Спыхальска ня ведае. Дэпутатка ад лібэральнай Уніі Свабоды (UW) прызнала, што паслу ў Менску дастаткова ведаць расейскую мову, але падкрэсьліла: «Ветлівым жэстам адносна Беларусі было б накіраваньне пасла, які ведае афіцыйную мову гэтай дзяржавы». Тут ужо дэпутаты ад урадавай партыі Саюзу Дэмакратычнай Лявіцы (SLD) пачалі прыводзіць свае аргумэнты, маўляў, «ня ўсе грамадзяне Беларусі ведаюць беларускую мову», «ніводзін з кіраўнікоў Беларусі ня ведае беларускай мовы». У адказ, як зазначыла Gazeta Wyborcza, дэпутат ад Польскай Народнай Партыі (PSL) – саюзніцы Лявіцы ва ўрадзе – закрычаў: «20 працэнтаў людзей размаўляюць у Беларусі пабеларуску! Трэба ведаць сытуацыю, а не распавядаць казачкі!» «Моўная» дыскусія скончылася абяцаньнем спн. Спыхальскай вывучыць беларускую мову ў Менску.

Далей спрэчкі паміж дэпутатамі ад урадавых партыяў і ад апазыцыі працягнуліся на тэму палітычнай місіі польскага пасла ў Беларусі. Лібэралы з Уніі Свабоды мяркуюць, што ў Менску патрэбны чалавек зь вялікім палітычным і дыпляматычным досьведам, каб умець захоўваць адносіны як з прэзыдэнтам Беларусі, так і зь беларускай апазыцыяй. Дэпутаты Лявіцы сьцьвярджаюць, што новы пасол мае палітычны досьвед.

Эва Спыхальска нарадзілася ў 1949 г. у Варшаве. Адвучыўшыся ў Будаўнічым тэхнікуме, яна распачала сваю кар'еру партыйна-грамадзкага дзеяча ПНР, скончыўшы Аддзяленьне паліталёгіі Акадэміі грамадзкіх навук пры ПАРП. З 1969 г. занялася прафсаюзнай дзейнасьцю. Кароткі пэрыяд брала ўдзел у «Салідарнасьці». З 1991 г. да прызначэньня ў Менск была Старшынёй Агульнапольскіх прафсаюзаў (OPZZ).

Паводле вынікаў галасаваньня ў Камісіі, нягледзячы на тое, што апазыцыя галасавала супраць, спн. Эва Спыхальска была зацьверджана на пасаду пасла. Засталося дачакацца толькі ўказу прэзыдэнта Квасьнеўскага. Вядома, што такі ўказ ён мае намер падпісаць.

Адначасова з паслом у Менск зацьвярджалася кандыдатура пасла ў Маскву. Гэты сюжэт выглядаў абсалютна ідылічным у параўнаньні з дыскусіямі вакол кандыдатуры спн. Эвы Спыхальскай, бо прызначэньне Анджэя Залуцкага было дасягнута ў выніку палітычнага торгу паміж урадавымі партыямі, у выніку якога PSL атрымала пасаду намесьніка міністра замежных справаў.

Дыскусіі у польскім сэйме вакол прызначэньня пасла ў Менск сьведчаць пра важнасьць беларускага напрамку для польскай дыпляматыі й польскіх палітыкаў. Але сёньняшнюю польскую сытуацыю характарызуе таксама тое, што на дыпляматычныя пасады прызначаюць паводле партыйных прыкметаў. Пры зьмене цэнтральнай улады будзе зьменены й пасол.

У Менск едзе пасол, якая мае прагматычны досьвед прафсаюзнага жыцьця, у стане паразумецца зь левымі палітыкамі. Адначасова «жаночая лінія» польскай дыпляматыі будзе працягнута. Але першага польскага пасла Эльжбэту Смулэк мы запомнім як прафэсійную беларусістку.

**Алег Дзярновіч**

# Шэрыя расейскія палкоўнікі ёсьць, а БНА-БНСО няма

Ці таму, што я зь Берасьця, ці таму, што я сам «замінаў руху аўтатранспарту 26 красавіка», для мяне галоўная падзея нашага супольнага жыцьця на мінулым тыдні – суд над сямю ўкраінцамі, ахвярнымі казламі нашае веснавое міні-рэвалюцыі.

Упершыню з украінскімі нацыяналістамі-радыкаламі я сутыкнуўся ў 1993 годзе на сусьветным кангрэсе студэнтаў-украінцаў у Кіеве. Каб правесьці любае ім рашэньне – а іх на зьезьдзе было зусім няшмат – яны, усе дружна, у сваёй чорнай уніформе, станавіліся ў два шэрагі за ўваходам ва «Ўкраінскі дом». Праходзячы між маўклівымі шэрагамі, дэлегаты і госьці атрымлівалі іхнія ўлёткі-праграмы. Рабілася страшнавата.

Пасьля, рыхтуючы дыплёмную працу, я цішком сьмяяўся з палітычнай і эканамічнай праграмы УНА-УНСО, гэткай копіі з праграмаў пабудовы карпаратыўных грамадзтваў і дзяржаўных імпэрыялізмаў дваццатых гадоў.

Але сёньня, калі я бачу фотакарткі сямі змардаваных хлопцаў за кратамі... Я ўсё думаў: як так, што дзясятак камэраў да дробязяў зафіксавалі, як перакульваюцца машыны, а слаўныя органы так і не змаглі ўстанавіць, чые ж рукі пацягнуліся да трох сіратлівых легкавікоў? Ці не таму, што іхнія ж і перакульвалі? Рука руку мые...

29 жніўня ў 8.40 у першай праграме беларускага радыё чую выступленьне сп. Дашкевіча, якога прадставілі начальнікам аддзела Дзяржкамдруку, і гэты супрацоўнік «міністэрства праўды» на прыгожай беларускай мове вяшчае пра міжнародную габрайскую змову, плямы сіянісцкіх колаў, агента Пазьняка. «Невыпадкова, – кажа дзяржаўнае радыё, – на месца Пазьняка прыйшоў Баршчэўскі: справа ў тым, што Баршчэўскі нядрэнна валодае іўрытам». Далей агітатар запэўніў аўдыторыю, што «нас усе палохаюць рускім фашызмам, а хто іх бачыў, рускіх фашыстаў? Няма рускіх фашыстаў». На заканчэньне перадачы, у 8.50, жанчынка сказала: «Я дзякую нашаму госьцю за цікавае выступленьне». Голас яе дрыжэў.

Нядаўняга палкоўніка расейскай ФСК Ерына на пачатку жніўня зрабілі намесьнікам міністра ўнутраных справаў Беларусі і генэралам; нядаўняга палкоўніка расейскай ФСК Юркіна зноў павысілі ў званьні і паставілі намесьнікам старшыні Савету Бясьпекі РБ.

Распальваньне нянавісьці – шлях да перамогі, абраны нашымі шэрымі палкоўнікамі-агітатарамі. На прэзыдэнцкіх выбарах яны распальвалі варожасьць да каталікоў і палякаў, яны распаўсюджвалі чуткі пра Кебіча, які нібыта вывез сям'ю ў Ізраіль, і пра Шушкевіча, які нібыта вывез беларускае золата ў Польшчу. На рэфэрэндуме 1995 году яны распальвалі нянавісьць да інтэлігентаў, што ядуць наша сала і мазюкаюць нікому непатрэбныя незразумелыя карціны, да беларускамоўных, якія ўсе пагалоўна – дзеці паліцаяў. На выбарах у парлямэнт яны распальвалі нянавісьць да «тоўстых банкіраў», багатых, якія ўсе, нібыта, спэкулянты. Цяпер – нянавісьць да Амэрыкі, да габраяў, да хахлоў...

Палкоўнікі Замяталін і Посахаў хочуць прывучыць нас, што маралі, праўды, сумленьня няма. Яны карыстаюцца праверанымі рэцэптамі, якім навучаў палкоўнік Латыпаў у школе КГБ: валі на габраяў, палякаў, амэрыканцаў, інтэлігенцішак...

Няма на іх БНА-БНСО.

Я чалавек апалітычны. Мне пляваць, хто там пры ўладзе, амаль пляваць, што там за эканамічная палітыка робіцца, але я не магу цярпець няпраўды, нянавісьці, прыніжэньня. Мне агідны фашызм, што наплывае і наплывае. Чалавек ніколі, ні ў якіх абставінах не павінен апускацца да шавінізму.

УНА-УНСО да шавінізму апускаецца. Але я цалкам зразумею, калі зьявіцца беларуская самаабарона ад дыктатуры расейскіх палкоўнікаў.

**Андрэй Дынько**

# УНА-УНСО не апускаецца да шавінізму

Ня можа апусьціцца, каб і хацела. Так, ад нацыяналізму да шавінізму і фашызму – адзін крок. Але гэты крок ніколі ня будзе зроблены ні беларускімі, ні ўкраінскімі нацыяналістамі, і вось чаму: у прысутнасьці Расеі, зь яе маніяй «называць усё расейскае славянскім, каб потым мець магчымасьць назваць усё славянскае расейскім», і беларускі, і ўкраінскі, і ў пэўнай ступені польскі нацыяналізм – гэта проста напружаньне ўсіх сілаў, каб ня быць затаптаным шматлікім і моцным расейскім народам; гэта напружаньне ўсіх сілаў дзеля таго, каб гэтая – наша – зямля канчаткова не ператварылася ў сьметнік. Расейскі ж нацыяналізм – гэта фашызм – самаабарона звыш неабходнага. І джын з бутэлькі ўжо выпушчаны...




Што да мэтадаў УНА, якія выклікаюць у цябе такую саркастычную ўсьмешку... Вось ты, разумны і дасьведчаны, сьмяяўся ці плакаў, калі чытаў гэтую новую «канстытуцыю»? Ты ня ведаў, што рабіць. А УНСоўцы – ведаюць. Таму ў іх, ва Ўкраіне – новая Канстытуцыя, а ў нас – сьмех праз сьлёзы. Таму Ўкраіна будзе рабіцца ўсё больш заможнай, а што будзе ў нас?

Дабро павінна быць з кулакамі. Нават не дзеля таго, каб перамагчы зло – каб яго ўраўнаважыць. А пасьля гэтага можна перамагчы і словам.

А то што? Сямён Шарэцкі гаворыць – і як з гуся вада; Станіслаў Багданкевіч даводзіць – і як з качкі бруд; Аляксандар Фядута палымяна піша – і нуль па фазе эфэкту. Зноў жа пра лом згадваюць... А дзе ён, той другі лом?

А хлопцы-ўкраінцы малайцы, як па мне. Фізычная падрыхтоўка на ўзроўні, што й казаць. Трымаюцца так, што заглядзісься – дармо што схуднелыя ды бледныя. Ды твары ў іх прыгожыя – сьветлыя, дай Бог ім здароўя ды добрых жанок.

Так што гартуй мускулы, Андрэю. А жыцьцё нуднае ды бязглуздае, нібы прамова памянёнага табой Замяталіна.

**Натальля Бабіна**

PROMENADE

# Туга па горадзе NN

Я ня ведаю, чаму мяне цягне туды так раптам. Расейскай мовы мне й тут хапае. Ня кажучы пра іхнюю папсу ў нашым эфіры. Не гаворачы пра ўсялякія інтэграцыі з інаўгурацыямі. Але ўтрымаць сябе ўжо не магу. І хай аўто мае тройчы ўкраінскае. Хай дарогі наперадзе сугуба расейскія. Ды на адвечнае расейскае пытаньне: куды ж дакоціцца маё кола, – я ведаю цьвёрды адказ. Да Ніжняга Ноўгараду.

Трохі было падзабытыя расейскія маштабы пачалі нагадваць пра сябе ледзь не па праезьдзе мяжы. Усё радзей трапляліся вескі, ды й тыя выглядалі ня надта жыва. Асабліва вылучаліся дамы барачнага кшталту (гэта ў вёсцы!) дзенідзе на тле «барочных» сядзібаў «новых расейцаў». Усё далей адсоўваўся далягляд, саступаючы законнае месца расейскім прасторам. Усё больш адчувальнаю станавілася туга, незразумелая мне самому.

Да Масквы пад'яжджаў ужо ў цемры. Дакладней, да Масквы заставалася яшчэ кілямэтраў сто. Таму ўласна цемры на шашы не было. А было адчуваньне хуткага набліжэньня да супэрмэгаполісу, што мацнела з праездам яшчэ аднаго міліцэйскага паста, яшчэ аднаго асьветленага скрыжаваньня, яшчэ аднога горада-спадарожніка. І так на працягу цэлай сотні, адлегласьці, што дома здавалася мне даволі значнаю. Зрэшты, чым павінен быць уезд у сталіцу, як не цырымоніяй.

Пад такі дарэчны крык Высоцкага з дынамікаў я ўляцеў (ці ўліп) у бясконцы й шумны паток стоп-агнёў, рэклямных экранаў ды асьветленых вітрынаў. Зь першага свайго скрыжаваньня гэты горад цалкам апраўдваў тыя мілі чаканьня чагосьці незвычайнага. Імкнучыся ехаць як мага павальней, я ўсё адно не пасьпяваў разглядаць мадэрновыя плады знакамітага маскоўскага будаўнічага буму ды адзначаць зьмены ў горадзе, які, як сам лічыў, знаў калісьці ад і да.

Я столькі чуў пра неабходнасьць ці наадварот будаўніцтва Храма Христа Спасителя. А пабачыўшы, нават не згадаў тыя такія доўгія ды аргумэнтаваныя дыскусіі. З-за рога змрочнага «Дома на набережной» выплыў, каб асьляпіць і зьбянтэжыць, агромністы да немагчымага і залаты да вар'яцтва купал. Чатыры гіганцкія краны па баках ня толькі не дадавалі збудаваньню незавершанасьці, а яшчэ больш падкрэсьлівылі ягоныя фантастычныя памеры... Якая гэта радасьць – вырвацца з маскоўскага транспартнага пекла на Ўладзімірскі тракт. Які са сваімі адвечнымі калдобамі ды «пізанскімі» званіцамі адразу падасца раем. А маладая, самай пякучай прыгажосьці цыганка адной усьмешкай ператворыць ЗАЗ у Mercedes. А шыльдачка «До Челябинска» ў руках аўтастопшчыкаў прымусіць рэшту адлегласьці зрабіцца проста сьмешнаю. Я шматкроць уяўляў свой трыюмфальны ўезд у гэты горад на сваім «сымбалі посьпеху». Але што сапраўдным тым сымбалем будзе гэты горад – ніякім чынам ні сьніў, ні бачыў. Шырокая рака сьвежага асфальту зьмяніла ўжо абрыдлую двухрадку. Пераліўшыся ў гарадзкую вуліцу, яна не прыдбала ніводнай яміны. І чаго я зусім ужо не чакаў, вуліца была чыстаю. Нават на тратуарах кудысьці падзелася сьмецьце. Так, горад стаў адкрыты для іншаземцаў. Сталічныя амбіцыі граюць на ўсю моц. Зноў жа – Кірмаш. Але хто ж гэта прыбраў з вуліцаў роднага раёну зь мілагучнаю назваю Канавино стогадовы бруд?.. Пасьля гэтага адкрыцьця чаму яшчэ мне тут зьдзіўляцца?

Навошта я сюды прыехаў? Што так цягнула мяне сюды? Чаго я хацеў тут знайсьці? Насталыгіі?

Я набыў пачак «Беламору» і ўрачыста выйшаў у свой горад у пошуках гэтага салодкага пачуцьця. Я так марыў прысесьці на тым услончыку, дзе не сядзеў дзесяць гадоў і, насьвістваючы нейкую падзабытую візбараўскую песьню, завалачыся папіросным дымам успамінаў. Уявіць, што не было ў мяне дзесяці гадоў. А разам зь імі й Беларусі, і Вільні, і яшчэ шмат чаго не было. Быццам гэта дадало б мне чаго-небудзь эліксырна-прадуктыўнага.

Паблукаўшы паўдня ды выпаліўшы паўпачака, я так нічога цікавага й не адчуў. Хіба толькі лёгкае замутненьне ад расстраляных папіросаў. Заставалася толькі пасумаваць аб дарэмна пакінутай бацькаўшчыне. Ці пайсьці па перайменаваных вуліцах не майго гораду ў пошуках адкрыцьцяў.

Далёка ісьці не давялося. Паўсюль, дзе толькі магчыма затрымацца воку, красаваліся ўдала зробленыя каляровыя фотакраявіды Ніжняга з тэкстамі-лёзунгамі. Надпісы «Это наш с тобою город», «Твой город – твоя жизнь» ці проста унушальным шрыфтам «Нижний Новгород» стварылі гораду своеасаблівы культ і трохі растлумачылі мне паходжаньне ягонай такой нязвыклай чысьціні. (Вось чаго, дарэчы, не хапае чысьціні нашае мовы, дык гэта культу.) Чысьціня была нават вакол будаўнічых пляцовак і рэстаўраваных, зацягнутых нейкаю камуфляжнаю тканінаю фасадаў. Над кожным будынкам, што раней слаба нагадваў царкву, узьдымаліся купалы. Кожнае вольнае раней месца забудоўвалася ці кафэшкаю, ці прыватным палацам. Таксама ўзрадавала невялікая, адносна памераў горада, колькасьць аўтамабіляў. Квасны патрыятызм нарэшце саступіў месца патрыятызму аўтамабільнаму. 5-ці дзьверныя «Нивы» з посьпехам канкуруюць тут са сваімі аналягамі. Чаго ня скажаш пра радыётэхніку. Я не сустрэў ніводнай кватэры, дзе ня быў бы заменены стары «Рекорд» з «Чайкаю» на Sharp з Panasonic'ам, з прычыны таннасьці апошніх. Kodak таксама ўвайшоў амаль у кожны расейскі дом, зрабіўшы расейскае жыцьцё больш маляўнічым. Што прыемна адзначыць яшчэ, дык гэта той факт, што ў разьліках як гатоўкай так і «в уме» расейцы ўжо не карыстаюцца «ўмоўнымі адзінкамі». Толькі рублямі. Хоць з апошнімі справы складаюцца ў кожнага па-рознаму. Што тут кіруе самы малады й дэмакратычны губэрнатар, я чуў. І што Масква тут ніколі не была ўказам, таксама ведаў. Але што да гэтага, ці ад гэтага простаму расейскаму чалавеку? Напрыклад, маім сваякам. Людзям, якія ў разнастайнасьці лёсаў, ўзросту і «сацыяльнай выбаркі» не саступаюць пэрсанажам «Русского проекта».

Братан Вовачка, дабрэйшай душы чалавек, атрымаўшы ў п'яной бойцы траўму галавы, пакінуў службу машыніста й працуе сьлесарам у дэпо. Месяцовага заробку ў мільён яму хапае каб ня быць у крыўдзе на жыцьцё й карміць сям'ю. Сястрычку Машаньку, дзяўчыну са зьнешнасьцю Чырвонага Каптурка, хвалюе раздор з жаніхом. Жаніх цікавы ўжо тым, што, будучы сынам блатнога й багатага папы, абраў завод, як першы доказ сваёй жыцьцяздольнасьці.

Дарэчы, тых блатных ды «новых» настолькі шмат тут разьвялося, што ледзь ня кожны мае ў сваяках, сябрах ці, прынамсі, суседзях па пад'езьдзе свайго бізнэсмэна ці бандыта. Што, зрэшты, і робіць іх героямі шматлікіх анэкдотаў. Безьліч якіх нараспавядаў мой сямнаццацігадовы кузэн Алёша. Паўнаўладны прадстаўнік новага пакаленьня. У параўнаньні зь якім мае, дзесяцігадовай даўніны, сёньня выглядала б племем туземцаў. Складаньне кампутарных праграмаў, беглае чытаньне ангельскіх тэкстаў ды вольнае карыстаньне жывымі пладамі сэксуальнай рэвалюцыі, – справы для іх натуральныя, як само жыцьцё. Якое не пасьпела яшчэ нічым азмрочыцца. Адзінае, што нас лучыць, гэта, на маё зьдзіўленьне, песьні. Старыя турысцкія песьні Візбара й Кукіна, якія яны сьпяваюць у вандроўках за палярнае кола. Пра Чачэнію (а тым больш, пра Беларусь) ім думаць ня хочацца – іх прызыў яшчэ не надышоў. Пра Чачэнію я пачуў толькі ад майго шасьцігадовага пляменьніка Сашы, які праціўнікаў кампутарных гульняў называе чачэнамі. Але ягонага прызыву, дасьць бог, можа й ня будзе ўвогуле...

Шпацыруючы па Большой Покровской у пошуках хоць якой-небудзь прыстойнай друкаванай прадукцыі мясцовай вытворчасьці, я натрапіў на падручнік геаграфіі для старэйшых клясаў. Дзе знайшоў «нашу зялёную рэспубліку» ў разьдзеле «Зарубежная Европа». Які не зьбіраюцца ні адмяняць, ні перапісваць. І куды мяне цягне зноў, як і дзесяць гадоў таму...

**Зьміцер Бартосік**

# Без дыеты не абысьціся



Функцыянальная ежа, нутрыцэўтыкі, харчовыя ці дыетычныя дамешкі – у розных краінах гэтыя сродкі называюць па-рознаму. У нас часьцей ужываюць тэрмін "біялягічна актыўныя дамешкі да ежы". Яны ўяўляюць сабой канцэнтрат натуральных ці атрыманых хімічным шляхам рэчываў, які ўжываецца разам зь ежай, замест ежы ці ўводзіцца ў склад прадуктаў з мэтай узбагачэньня рацыёну. Мы пагаворым толькі пра тыя, якія дапамагаюць пахудзець.

За мяжой яны вельмі папулярныя і вольна прадаюцца ў крамах і аптэках, але ж мэханізм іхнага распаўсюджаньня стыхійны і няўстойлівы. Мы бачым, што і ў нас у Беларусі гэтым займаюцца часта выпадковыя людзі.



Фактычна, біялягічна актыўныя дамешкі нельга аднесьці ні да мэдыцыны, ні да харчовай прамысловасьці. Адсюль, верагодна, і кепская дасьведчанасьць людзей пра іхнае выкарыстаньне. Дамешкі па-рознаму ўплываюць на арганізм. Існуе тры тыпы дамешак рознай накіраванасьці.

Спэцыялізаваныя нізкакалярыйныя прадукты з канцэнтратамі біялягічна актыўных рэчываў, спальвальнікі тлушчу – біялягічна актыўныя дамешкі ліпатропнага дзеяньня і дамешкі анарэктычнага дзеяньня.

Так што выбар у ахвочых пахудзець ёсьць. Але сьпярша варта параіцца зь лекарам.

Да прадуктаў першага тыпу – нізкакалярыйных, з канцэнтратамі натуральных рэчываў належаць "Biorapid" і "Liftitensil". Гэта дамешкі італьянскае фірмы Sant'Angelica, ейны фірмовы знак – жаночая постаць у палёце. Фірма дала на выпрабаваньні чатыры прадукты: "Biorapid" вадкі, "Biorapid" парашок, печыва "Biorapid" і "Liftitensil".



У дамешку "Biorapid" у мікрадозах ёсьць канцэнтраты гароднінавых і садавінавых сокаў, экстракты морскіх водарасьцяў, асобных траваў, кукурузны алей і аскарбінавая кісьліна. У печыве "Biorapid" акрамя таго ёсьць рыс, аўсяныя шматкі – дадатковыя крыніцы харчовых валокнаў. "Liftitensil" адрозьніваецца ад гэтых біялягічна актыўных дамешак і ўваходзіць у групу бялковых прадуктаў, прычым пераважае там бялок каляген.

Пацыентам аднае брытанскае клінікі прызначаліся тры разгрузныя дні на тыдзень, на працягу якіх яны мусілі ўжываць толькі прызначаны ім дамешак. Аднак ня ўсе вытрымалі такія галодныя дні – за суткі зь "Biorapid" набіралася толькі 60-70 кКал. Тады лекары зрабілі такім чынам: два прыёмы ежы замянілі на "Biorapid", а ў абед давалі варанае нятлустае мяса ці рыбу з гароднінавым гарнірам, што складала на дзень 500-700 кКал. Такі спосаб, дарэчы, прапануецца і ў анатацыі.

Выпрабаваньне доўжылася тры тыдні. Былі арганізаваныя дзьве групы: досьведная і група параўнаньня. У абедзьвюх групах былі пацыенты прыблізна аднаго ўзросту, з адной паталёгіяй, мелі аднолькавую дыету. Толькі адным у курс лекаваньня ўключалі дамешкі, а другім – не. Такім чынам клініка можа атрымаць максымальна слушныя вынікі эфэктыўнасьці выпрабавальных сродкаў.

За тры тыдні тыя, хто не атрымліваў "Biorapid" і тыя, хто сумяшчаў яго прыём з абедам у разгрузныя дні не нашмат адрозьніваліся ў вазе: першыя страцілі ў сярэднім 4,5 кг, а другія – 5,7 кг. У тых жа, хто ў дзень разгрузкі прымаў толькі "Biorapid", страты вагі склалі ад 8 да 17 кг. Тыя, хто прымаў "Liftitensil", страцілі ў сярэднім 5,4 кг.

Прааналізаваўшы антрапамэтрычныя паказьнікі пацыентаў, што прымалі "Biorapid" і асабліва "Liftitensil", які, як кажа рэкляма, спрыяе зьнікненьню падвойных падбародзьдзяў, тлушчавых адкладаў на целе, руках і нагах, назіральнікі не заўважылі, каб эфэкт быў большы ад звычайнага.



Дасьледаваліся адмыслоўцамі й арганалептычныя ўласьцівасьці дамешак. "Biorapid"-печыва пацыенты елі з задавальненьнем. Яно смачнае і за кошт вялікай колькасьці харчовых валокнаў дае адчуваньне сытасьці. Вадкі "Biorapid" і "Biorapid"-парашок многіх не задавальнялі з гледзішча смакавых якасьцяў.

Была адзначана і розная адчувальнасьць да гэтых дамешак. У некаторых пацыентаў узьнікала пачуцьцё дыскамфорту ў вобласьці страўніка. У пацыентаў, якія прымалі "Liftitensil", непрыемных адчуваньняў не адзначана.

"Спальвальнікі" тлушчаў – самая рэклямаваная на цяперашні момант сэрыя дамешак. Вытворца іх – Спартовыя Лябараторыі ЗША (USA Spotrs Labs). На выпрабаваньне брытанскай клініцы былі пададзены "Fat Burner" з элькарнітынам, "Fat Burner" з брамэляйнам і камбінаваны "Gutting Edge". Рэкляма й прадстаўнікі пераконваюць, што гэтыя дамешкі нішчаць тлушч, дый сама іхная назва – спальвальнікі – крыху страшыць. Насамрэч нічога кепскага ў "спальвальніках" тлушчу няма. Кампанэнты іхныя накіраваны на падтрыманьне абменных працэсаў. "Fat Burner" з элькарнітынам і брамэляйнам падобныя паводле складу. Элькарнітын – амінакісьліна ліпатропнага дзеяньня (яна ўзьдзейнічае непасрэдна на працэс мабілізацыі тлушчу). Брамэляйн – выцяжка з ананаса, якая ўяўляе сабой комплекс фэрмэнтаў. "Gutten Edge" адрозьніваецца тым, што ў яго ўключаны комплекс траваў найперш бруляпрэчнага дзеяньня (плады ядлоўца, талакнянкі й г. д.).



Страты вагі ў пацыентаў пасьля курсу лекаваньня розныя – ад 3 да 10 кг на "Fat Burner" і ад 2,8 да 14 кг на "Gutting Edge". Адрозьненьні гэтыя, верагодна, былі зьвязаныя з рознай ступеньню фізычнай актыўнасьці. Дарэчы, у парадах вытворцы пададзены чатыры ўмовы, якія неабходна выконваць пры ўжываньні гэтых дамешак: не пераядаць, не галадаць, не ўжываць сьпіртнога, павялічыць фізычныя нагрузкі.

У выніку аналізу было заўважана добрае ўзьдзеяньне гэтых дамешак на арганізм: у прыватнасьці, яны зьніжаюць колькасьць халестэрыну ў крыві.

Дамешкі трэцяе групы "Negry Line", "Negry Life", "Negry Form" маюць анарэктычнае дзеяньне. Вырабляе іх француская фірма Actidiet.

У якасьці асноўных актыўных складнікаў гэтых дамешак выкарыстоўваюцца клубні расьліны канжака й гуаравы каўчук. Поліцукрыны, якія ўваходзяць у склад канжака, у водным асяродзьдзі паглынаюць аб'ём вады, які перавышае ягоны ўласны ў 100-135 разоў. Трапіўшы ў страўнік, канжак купуюе пачуцьцё голаду, эфэкт набраканьня дае адчуваньне сытасьці.



У пацыентаў, якія ўжывалі прэпарат, – а яны прымалі па дзьве капсулы на дзень за 30-40 хвілінаў да ежы і абавязкова запівалі шклянкай вады – эфэкт падаўленьня пачуцьця голаду быў заўважаны ў 75 % выпадкаў.

Параўнальны аналіз вагі ў кантрольнай групе і ў тых, хто атрымлівае дамешкі, паказаў, што вынікі былі лепшыя ў апошніх. Адчуваньне псыхалягічнай утульнасьці, адсутнасьць голаду прыводзіць да таго, што хворыя з большай строгасьцю прытрымліваюцца дыеты.

Праграма збалянсаванага вузнага (клеткавага) харчаваньня **Гербалайф** накіравана перадусім на аздараўленьне ўсяго арганізму як цэлага праз забесьпячэньне на ўзроўні кожнае вузы: 1) глыбокай ачысткі ад шлякаў, таксынаў, назапашаных за жыцьцё; 2) абмежаваньне засваеньня шкодных рэчываў, якія ўвесь час трапляюць у нас з харчам; 3) павышэньне ўстойлівасьці да ўзьдзеяньня адмоўных чыньнікаў асяродзьдзя; 4) паўнавартаснае харчаваньне – забесьпячэньне ўсім жыцьцёва неабходным для правільнай дзейнасьці, чаго звычайна нестае з прычыны няправільнага і незбалянсаванага харчаваньня, – і нічога лішняга, непатрэбнага. Функцыі ачышчэньня і бар'еру ў праграмах Гербалайф выконвае мноства таблетаваных комплексаў зь зёлак пераважна з экалягічна чыстага высакагор'я Тыбэту, а атрыманьне кожнай вузай усяго, што ёй трэба, забясьпечвае так званы "кактэйль" – бялкова-вітамінна-мінэральны комплекс для прыгатаваньня напояў розных смакаў, які распрацаваны паводле тэхналёгіяў зь лябараторыяў НАСА для амэрыканскіх астранаўтаў. Калі ж кожная вуза нашага арганізму вымытая, абароненая і накормленая – нармалізуецца абмен рэчываў, умацняецца імунная сыстэма і ўвесь арганізм як цэлае пачынае вырашаць мноства сваіх праблемаў са здароўем, у тым ліку і зь лішняй ці недастатковай вагой. Да таго ж істотна зьмяншаецца калярыйнасьць рацыёну за кошт замены часткі звычайнай ежы нізкакалярыйным кактэйлем, якасьць харчаваньня пры гэтым нават паляпшаецца (так адна порцыя кактэйлю – 25 г – задавальняе дзённую патрэбу ў шэрагу вітамінаў і амінакісьлінаў), і адначасова паскараецца перапрацоўка тлушчаў на энэргію і ваду. У выніку чалавек тройчы на дзень п'е "фасолінкі" зёлак, адзін ці два разы п'е вельмі смачны кактэйль, адпаведна два ці адзін раз есьць звычайную ежу, выпівае 2,5–3 літры вадкасьці, не адчувае голаду, бадзёра сябе адчувае – і камфортна худзее ад 5 да 15 кілаграмаў за месяц. Дасягнуты ўзровень вагі пры разумных далейшых паводзінах нават без праграмы рэабілітацыі часта трымаецца доўгі тэрмін.



Усе вышэйназваныя дамешкі, уяўляючы сабой экстракты расьлінаў, мэтанакіравана ўплываюць на розныя бакі жыцьцядзейнасьці арганізму. Таму падбіраць камплект трэба індывідуальна.

# Небясьпечныя лекі



**Лінкаміцын** (агульнапрынятая назва – **лінкацын**)

Банглядэш: Паводле ўмоваў кантролю над лекавымі сродкамі, лінкаміцын унесены ў сьпіс лекаў абмежаванага выкарыстаньня, яго дазволена вырабляць у абмежаваных колькасьцях у адпаведнасьці з парадамі дактароў-спэцыялістаў і ўжываць толькі па абмежаваных паказьніках. Паводле некаторых зьвестак, лінкаміцын выклікае псэўдамэмбранозны каліт.

Грэцыя: Пасьля зьяўленьня публікацыяў пра выпадкі псэўдамэмбранознага каліту, выкліканага антыбіётыкамі кліндаміцынам і лінкаміцынам, паказаньні да ўжываньня гэтых лекаў абмяжоўваюцца хваробамі, пры якіх іншыя антыбіётыкі неэфэктыўныя.

*Камэнтар Сусьветнай Арганізацыі Аховы Здароўя (СААЗ):*

Паведамлялася, што ў некаторых выпадках ужываньне антбіётыкаў шырокага спэктру дзеяньня – кліндаміцыну і лінкаміцыну – выклікала псэўдамэмбранозны каліт, які разьвіваецца у выніку вельмі інтэнсыўнага росту ўстойлівых формаў Clostridium difficile. Гэтыя два лекавыя сродкі застаюцца шырока даступнымі, але іх ужываньне звычайна абмяжоўваецца цяжкімі хваробамі, якія маюць пагрозу для жыцьця.

**Фуразалідон**

Японія: Выключаны зь ліку ўсіх прэпаратаў, якія паступаюць у продаж, у сувязі з тым, што быў выцесьнены больш бясьпечнымі і тэрапэўтычна эфэктыўнейшымі прэпаратамі (з 1977 г.).

Філіпіны: Зацьверджаны толькі для абмежаванага выкарыстаньня. Выпрабаваньні на жывёлах паказалі, што гэты лекавы сродак валодае канцэрагенным патэнцыялам. На цэтліках усіх прадуктаў павінна быць надрукаваная перасьцярога (з 1980 г.).

Італія: На цэтліках надрукавана наступная перасьцярога: "Грунтуючыся на звестках выпрабаваньняў прэпарату на жывёлах, фірма раіць толькі кароткатэрміновыя курсы лекаваньня пад назіраньнем доктара" (з 1982 г.).

*Камэнтар Сусьветнай Арганізацыі Аховы Здароўя.* Ацэнкі суадносінаў ступені бясьпекі і спрыяльнага ўзьдзеяньня фуразалідона – вытворнага нітрафурана – неаднолькавыя. Тым ня менш, гэтыя прэпараты застаюцца шырока даступнымі ў шматлікіх краінах, дзе іх ужываюць для лекаваньня дыярэі і энтэрытаў, што ўзбуджаюцца бактэрыямі і найпрасцейшымі.

*Надрукаваныя матэрыялы прэзентаваны ААН і зьмешчаны ў Зборным сьпісе тавараў, ужываньне і/ці продаж якіх забаронены ці абмежаваны.*

# Перш чым купіць цацку, панюхайце!

Цяжка зразумець, чаго дамагаецца вытворца, тыражуючы гэтых прывабных пупсаў – парадаваць дзяцей ці крыху іх патруціць? Бо нават пасьля непрацяглае гульні зь імі ў Вашага дзіцяці пачнецца кашаль, з вачэй паліюцца сьлёзы і яно будзе вельмі ўзбуджана.

А віною ўсяму фармальдэгід, воцатны і кратонавы альдэгіды – шкодныя для здароўя рэчывы, што выклікаюць раздражненьне сьлізьніцы вачэй і верхніх дыхальных шляхоў, узбуджаюць нэрвовую сыстэму. Яны былі ў вялікай колькасьці знойдзены ў гэтых цацках пры лябараторных дасьледаваньнях. Дадамо, што гэтыя цацкі, выраблены ў Кітаі, у менскія крамы трапілі праз Польшчу.

А яркія, вясёлыя надзіманыя зьвераняты, таксама, дарэчы, кітайскай вытворчасьці, як высьветлілася, яшчэ шкаднейшыя за папярэднія. Зьмесьціва сьвінцу і хрому перавышала ПДК (памежна дапушчальную канцэнтрацыю) утрая! Гэтыя рэчывы ня проста шкодныя для здароўя – яны згубна ўплываюць на генафонд чалавека.

Дык што ж рабіць бацькам, калі яны жадаюць купіць дзіцяці новую цацку? Найперш цацку трэба панюхаць. І калі яна мае моцны пах, які выклікае непрыемнае адчуваньне, – купляць такую цацку ня варта. Акрамя таго, перад купляй трэба папрасіць у прадаўца ці адміністратара крамы сэртыфікат бясьпекі. Бо дзіцячыя цацкі ўваходзяць у сьпіс тавараў, якія абавязкова мусяць праходзіць экспэртызу на бясьпеку!



Славамір Адамовіч

# Рэпартаж з 4-й камэры

*Заканчэньне. Пачатак у №22.*

## Проста скво

**З паказаньняў сьведкі па крымінальнай справе №182.**

*Прозьвішча: Галоўка. Імя: Глафіра. Дзень, месяц, год нараджэньня: 10 кастрычніка 1973 году. Месца нараджэньня: г. Калінкавічы, Беларусь. Нацыянальнасьць: Беларуска. Адукацыя: вышэйшая, журналіст. Месца працы: "Настаўніцкая газэта", перакладчыца.*

"По существу (...) вопросов поясняю следующее:

... С января 1996 начала работать в "Настаўніцкай газеце", сначала я подменяла штатного работника редакции, а с 17 февраля 1996 г. меня взяли на постоянную работу на должность переводчика. В мои обязанности входит перевод авторских материалов, писем, документов, поступающих из Министерства образования и науки, которые приходят в редакцию на русском языке. (...) Хочу дополнить, что С.Адамович мне на данный момент кажется человеком с довольно неуравновешенной психикой. И причины его деятельности в последнее время заложены в неблагополучии его личной жизни. Я не утверждаю это, по крайней мере мне так кажется и казалось во время нашего с ним общения. Несмотря на его хорошее отношение ко мне, добрым человеком я назвать его не могу. Но, в то же время, замечу, что по существу он – домашний человек, и будь у него хоть какая-то определённость в жизни, изданием газет, подобных "Лукашенской правде", и созданием националистических организаций он бы не занимался.

Со слов сотрудников "Настаўніцкай газеты" могу лишь сказать, что из данного издания С.Адамович был уволен за свои "взгляды", неприемлемые в упомянутом издании".

**З паказаньняў сьведкі па крымінальнай справе №182.**

*Прозьвішча: Старчэўская. Імя: Вольга. Дзень, месяц, год нараджэньня: 3 сакавіка 1951 году. Месца нараджэньня: в. Семежава, Беларусь. Нацыянальнасьць: Беларуска. Адукацыя: вышэйшая. Сямейная становішча: замужам.*

"Вопрос: Дайте, пожалуйста, характеристику Адамовича. Ответ: Адамович является своеобразным человеком, характер сложный и неординарный. Отличительной чертой является обязательность и пунктуальность. В коллективе может быть неуживчив. Прямой, может высказать сваё отношение к человеку в лицо. (...) Может признать свои ошибки, старается всегда оставаться честным. Прямолинеен".

**З пратаколаў допыту сьведкі па крымінальнай справе №182.**

*Прозьвішча: Бязьвершанка. Імя: Натальля. Імя па бацьку: Усеваладаўна. Дзень, месяц, год нараджэньня: 21 студзеня 1951 году. Месца нараджэньня: г. Ленінград, СССР (цяпер Расейская Фэдэрацыя). Нацыянальнасьць: расейка, грамадзянка РБ. Адукацыя: вышэйшая, філёзаф. Месца працы: газэта "Знамя юности", рэдактар аддзелу палітыкі і права. Сямейнае становішча: разьведзеная.*

"Адамович С.Г., по моему мнению, – человек, страдающий манией величия, безосновательно мечтающий о лаврах диктатора. Никаких задатков лидера у него нет. Экстремист, начисто отвергающий понятие народовластия, ярый националист".

**З паказаньняў сьведкі, дадзеных на допыце 16 красавіка 1996 году.**

*Прозьвішча: Вансовіч. Імя: Галіна. Дзень, месяц, год нараджэньня: 28 сакавіка 1971 году. Месца нараджэньня: м. Друя, Беларусь. Адукацыя: вышэйшая, філёлаг.*

"По существу заданных вопросов свидетель показал следующее: (...) В силу своего характера и поведения этот человек вызывает противоречивые чувства; с одной стороны он вызывает чувство жалости, являясь одиноким и не имея настоящих друзей, обладает долей литературного таланта, который мог бы проявиться, направь он его в нужное русло, любит детей. С другой стороны, на мой взгляд, у Славомира присутствует мания величия и мания преследования при комплексе саморазрушения. Такие выводы я сделала, исходя из его поведения, манеры одеваться, разговоров с ним. В частности: примерно через каждые сорок-шестьдесят минут Славомир тщательно моет руки "хирургическим" способом по 15 минут очень горячей водой со щёткой."

## Хваробачкі

У 4-й камэры я сяджу з 10 ліпеня. І ўвесь гэты час назіраю павольнае паміраньне чалавека, які назваўся Артурам Караткевічам. Ён, як і я, чакае суда. Інкрымінуюць яму, здаецца, хабар. Былы сьледчы з Барысава, мой аднагодак. Паводле прызнаньняў суседа, бацька ягоны прытрымліваецца левых поглядаў, увесь горад закідаў камуністычнымі ўлёткамі. Вось адкуль антыфронтаўскія рэплікі гэтага Артура.

Зрэшты, яму цяпер да лямпы і левыя, і правыя, і ўсе іншыя. За паўгода знаходжаньня пад сьледзтвам ён нажыў у сырых камэрах запаленьне бронхаў. Сёньня няшчасны ледзь не зайшоўся ад кашлю. Ціск упаў. Выклікалі доктара, які сказаў, што акрамя бранхіту ў хворага назіраюцца астматычныя сымптомы. І нягледзячы на відавочна крызысны стан падсуднага, намесьнік начальніка СИЗО КГБ абвінаваціў Артура ў сымуляцыі. Сёньня ж яго перавялі ў адзіночную і нібыта сушэйшую камэру. І засталося нас двох.

Пасьля сухой галадоўкі са здароўем пачынаюцца праблемы і ў мяне. Адчуваю першыя праявы гастрыту: кісьліня ў роце, адрыжка, цяпло ў жываце, якое, вельмі



магчыма, можа разьліцца пякельным полымем-агнём. П'ю таблеткі "Вікаіру". Прапаў апэтыт.

Вечар, 31 ліпеня. Блізка што чатыры месяцы за кратамі. Прачытаў апавяданьне Джэка Лёндана "Забіць чалавека". З канцоўкі твора застаецца незразумелым, ці стрэліла жанчына ў абяззброенага злодзея. Відаць, няпроста забіць чалавека. А ворага?..

## З мовы сядзельцаў "амэрыканкі"

**ГАДОК** – аднагодак, у войску "гадкі" – салдаты аднаго прызыву.

**ІЗЬМЕНА** – трывожлівы, неспакойны стан арыштаванага. Сядзець на ізьмене – перажываць, хваляваецца. Нэрвовая ліхаманка.

**КЕШАР** – перадача з волі.

**КІПЕЖ** – хваляваньне зьняволеных у камэрах, на "зоне".

**КІЧА** – штрафны ізалятар (шызо).

**МАЛЯВА** – цыдулка, інфармацыя, якой абменьваюцца зьняволеныя, знаходзячыся ў розных камэрах ці атрадах, альбо перадаюць на волю.

**ПРАБІВАЦЬ** – правяраць, выклікаць на шчырую размову. На зоне цябе будзе прабіваць "хазяін", вертухай, блатны, падсадны стукач. Мэта – здабыць інфармацыю.

**СІДАР** – вялікая сумка, сума, зь якой арыштант вандруе па этапах.

**СКВО** – жанчына.

**ХЛЯБАЛАВА** – бясконцы СИЗОшны суп, які даюць тут раніцай, днём і вечарам.

**ШЛЁМКА** – жалезная альбо алюміневая міска.

+++

**Жыць хочацца, бадай што, як ніколі,**
**тым больш любіць, тым больш, калі вясна,**
**тым больш, калі ў цябе дачка на волі,**
**тым больш, калі яе ў цябе няма...**

+++

**Няма куды бегчы, таварыш,**
**закрыты і захад, і ўсход,**
**падпісаны ордэр на арышт,**
**пастаўлены штамп: "У расход".**

**Настроены вораг рашуча,**
**ды толькі і ты не слабак,**
**і ўголас ты сьмела і гучна**
**гаворыш пра ўсё, што ня так.**

**Але ўжо і словаў замала,**
**і, значыць, настала пара**
**выходзіць насустрач вандалам**
**пад сьпеў партызанскіх гармат.**

*29 ліпеня 1996 году*

+++

**Не гані пургу*, начальнік,**
**Я табе не крымінал,**
**я прыгожага шукальнік,**
**я — пачатак, ты — фінал.**

**Я ірву душу на часткі,**
**ты вязаць канцы мастак,**
**я ўнікаю хітрай пасткі на ральлі,**
**як чорны грак.**

**Эх, з кайданнага я племя,**
**кантралёр табе імя,**
**мае ногі прагнуць стрэмя,**
**твае рукі — рамяня.**

**І таму, як ні ўсьміхайся,**
**як мне ў вочы ні хлусі,**
**скажа некалі: "Зьбірайся!"**
**І табе ДэПэЭНСІ**.**

*06.07.96г.*

**Гнаць пургу – хлусіць.*
***ДПНСІ – дзяжурны памочнік начальніка сьледчага ізалятара.*

## Тэстамант

Я, Славамір Генрыхавіч Адамовіч, беларус, 8 сакавіка 1962 году нараджэньня, да арышту пражываў па адрасе: г. Менск, вул. Сурганава, дом 45, корп. 3, паверх 8, блёк 4, абвінавачаны паводле ч. 1, арт. 67, ч. 1 арт. 80 і ч. 3 арт. 213 КК Рэспублікі Беларусі (крымінальная справа №182) і зьмешчаны ў сьледчы ізалятар КГБ РБ,

у выпадку маёй гвалтоўнай сьмерці адпісваю (завяшчаю)

Беларускай газэце "Наша Ніва" ў асобе яе законнага прадстаўніка рэдактара Дубаўца Сяргея Іванавіча мой асабісты архіў, які знаходзіцца на вышэйназваным адрасе. Пакой у блёку №4 апячатаны і здадзены на адказнае захаваньне камэнданту інтэрнату ПТВ-24 Шумейцы Ніне Ўладзіміраўне (пр. тэл. 32-46-11). Архіў уяўляе сабой рукапісныя і друкаваныя матэрыялы, лісты, фотаздымкі, альбомы, рабочыя дзёньнікі (чарнавікі літаратурныя), папкі з часопісамі і газэтамі, а таксама некаторыя іншыя рэчы, цікавыя для будучага музэю "Нашай Нівы".

Бібліятэку, якая знаходзіцца на тым жа адрасе, а найперш двухтомнік Ніцшэ і "Хрэстаматыю" М.Гарэцкага 20-х гадоў выданьня, адпісваю Страшэўскай Натальлі, студэнтцы філфаку БДУ.

Бытавыя рэчы (лядоўня, посуд, мэбля, вопратка, інш.) перадаць бацькам.

Гэты тэстамант складзены мною ў нармальным фізычным і псыхічным стане 15 ліпеня 1996 году.

*15.07.96 г.*

**Адамовіч С.Г. (подпіс).**

Мяркую, гэты "Тэстамант" можна выкарыстаць у друку. У любым выпадку ён сапраўдны. Усялякае можа здарыцца яшчэ тут, у СИЗО, а тым больш на "зоне", калі мяне туды адправяць. Так што прашу распарадзіцца маёй маленечкай спадчынай належным чынам. Гэта калі наш міт атрымае разьвіцьцё ў непажаданым кірунку. Аднак, як падказвае нам інтуіцыя, мы яшчэ пажывем. Ніякіх банальных самагубстваў (падзеньняў у пралёт лесьвіцы, павешваньняў, самастрэлаў, харакіры)! Жыць! Каб таварышу пракурору жыцьцё мёдам не здавалася, і проста так, каб дзяўчыначку кахаць...

*17.06.1996*

## Дакумэнт №1

Следователю по особо важным делам СО КГБ РБ капитану юстиции Сокольчику А.П.

Справка
о судебных издержках по уголовному делу №182

Судебные издержки по уголовному делу №182 по состоянию на 17 июня 1996 года составили:

1. На оплату труда адвоката (Цьветава – С.А.) – 106.814 рублей;
2. Стоимость проведённых экспертиз:
– №880 от 13 марта 1996 года – 850.000 рублей;
– №1050 от 29 марта 1996 года – 425.000;
– №1470 от 29 апреля 1996 года – 425.000 рублей;
– №1465 от 3 мая 1996 года – 567.000;
– №254 от 17 мая 1996 года – 1.500.000 рублей.

Всего: 3.873.814 (три миллиона восемьсот семьдесят три тысячи восемьсот четырнадцать рублей).

Начальник ФЭО КГБ РБ (пячатка, подпіс)
полковник Т.М.Кукушкин

## Дакумэнт №2, копія

Направляется на рассмотрение жалоба Драбкина Э.Б. по делу Адамовича С.Г. для проверки изложенных в ней фактов. О принятом решении просьба сообщить заявителю.

Решение: на 1 л.
Нач. отдела (управления)
(подпіс неразборлівы)

## Дакумэнт №3, копія

С огромным удовольствием узнал из печати, что прокуратура занимается делом Славомира Адамовича (Правый реванш).

Пишу Вам специально, чтобы подчеркнуть для Вас некоторые моральные качества этого профашиста. Я – учитель. Более тридцати лет выписывал "Настаўніцкую газету", но прекратил это делать после того, как она опубликовала ряд статей члена редколлегии – Адамовича. Если захотите увидеть облик этого ублюдка, пусть редакция предоставит его три статьи, опубликованные в разное время: "Рэмінісцэнцыі з нагоды" – на день освобождения – какое кощунство – Белоруссии от фашистов (какие партизаны – бандиты, какие золотые люди – немцы!), "Текст №5 "Лола з Будслава" (сплошные "жиды, жидовки и жидовочки"), "Пяць дзён на ўсходняй граніцы" (дикая, нечеловеческая, звериная русофобия).

В своё время я выразил своё негодование этими материалами. Меня поддержала редколлегия "Советской Белоруссии", которая, высказав своё возмущение, обратилась (с моим письмом) к министру просвещения. Но – увы, редакционная коллегия "Настаўніцкай газеты", собравшись по указанию министерства, подтвердила правомочность этих публикаций. И это в "Настаўніцкай газеце", занимающейся вопросами воспитания молодёжи.

В письме, направленном в министерство "Советской Белоруссией", были слова: "Публикации, которые по меньшей мере не делают чести ни вашему министерству, ни вашей газете". Это ещё мягко сказано.

Рад, что времена изменились, что в наше время можно "раздать каждой невестке по серьгам".

Так что известный Вам Славомир Адамович – это не только "Убей президента!"

Буду счаслив, если то, что я Вам сообщил, хоть в которой-то степени пригодится (хотя мой сын убеждает меня, что раз так долго ему позволяли публиковать эту всю мразь – за спиной у него кто-то есть).

С уважением Драбкин Эдуард Борисович (Гомель)

*20/IV - 96 г.*

Драбкін-малодшы мае рацыю: у мяне сапраўды "кто-то есть", толькі хутчэй не за сьпіной, а пад нагамі — гэта мая беларуская зямля. Вось яна і дае сілы, і гэта ёй я сплочваю доўг словам, як магу, за радасьць папіраць сваім 41-м памерам чаравіка золата лістоты ейных лясоў, жвір дарог, асфальт вуліцаў, бэтон турэмнай камэры...

Нехта Драбкін Э.Б. у свой час настаўнічаў у Будслаўскай сярэдняй школе, што на Мядзельшчыне. У гэтай жа школе працавала Паўліна Мядзёлка. У Будслаўскую дзесяцігодку пяць гадоў прашлэпаў і я; тут жа, у даўнім-прадаўнім Будславе, я сустрэў сваё першае плятанічнае каханьне — дзяўчыначку Лолу, жыдовачку. Праз 20 гадоў у "Настаўніцкай газэце" я апублікаваў няпэўны паводле жанру тэкст пра сваё першае дзіцячае захапленьне. Вось тут і ўзьнік Драбкін з усім тым на душы сваёй старэчай, пра што можна здагадацца, прачытаўшы ягоны ліст.

# Уся сям'я сядала каля радыёлы і слухала "Вольную Эўропу"

## Гутарка зь Віктарам Шалкевічам

Працяг са старонкі 1.

ня"). Пачалося заглыбленьне ў гісторыю, гульня ў маскі. У студыі беластоцкага радыё В.Шалкевіч сёлета запісаў альбом са сваімі песьнямі "Смутны беларускі блюз". На вокладцы зноў жа матэйкаўскі на каралеўскім троне блазан зь Віцевым тварам. Дарэчы, "Салодкі яд каханьня" здымалі ў Міры і Нясьвіжы. Пра некалі славуты горад у яго ёсьць песьня: "Дзе тваё Магдэбурскае права, дзе твае Радзівілы, Нясьвіж? Закаціліся гонар і слава, на мінулым пастаўлены крыж".

### Нямыя набылі голас

— Калі ўсё так кепска, ці ня думаў ты ўсё кінуць і зьехаць у якую-небудзь нармальную краіну?

— Наша краіна нагадвае мне біблейскія часы, калі пачынаюць уваскрасаць нябожчыкі, калі ў міліцэйскіх пастарунках нямыя пачынаюць гаварыць і даваць паказаньні. Толькі Хрыста пакуль няма і хіба яшчэ доўга ня будзе. Але ў людзей ужо пачалі расплюшчвацца вочы на тое, што робіцца ў Беларусі. Людзі сталі, як мне здаецца, вельмі хутка мудрэць. Мне няёмка, брыдка за тое, што ў нас робіцца на фоне таго, як усе суседзі ідуць наперад. І тым жа часам я жыцьцё ў нашай краіне ні на што б не прамяняў. Я тут маю сваё месца і выдатна сябе ў ім адчуваю.

### Быць беларусам няёмка

Шалкевіч — чалавек тутэйшы, заходнебеларускі, ды яшчэ тэатральны актор, таму ён можа пабыць ня толькі ў шкуры немца. Самавызначэньне яго сапраўды было стракатае, выразна не хацелася называцца савецкім чалавекам бяз адрасу і вуліцы. Было гэта прыблізна так...

— У 39-ым Чырвоная Армія вызваліла маё роднае мястэчка Поразава. Прыйшлі Саветы і давай агітаваць у беларусы. А ў нас заўжды існавала розьніца паміж каталікамі і праваслаўнымі, якія мелі толькі адныя нагавіцы, лазалі на бярозкі, выглядаючы Чырвоную Армію і размахвалі чырвонымі сьцягамі. Вось жыхары Поразава і адмовіліся: мы, маўляў, — палякі.

Калі цяпер касьцельныя пачалі перапісвацца ў палякі, я ў іх пытаюся: а хто вас прымушаў запісвацца беларусамі? Яны тады мне локшыны на вушы вешаюць, што беларусам лягчэй было ў інстытуты паступаць. А чаму ж вы ў касьцёл толькі цяпер пачалі хадзіць? Бо няможна раней было, адказваюць. А я хадзіў. Прыніжацца робіцца звычкай.

### Польскасьць як форма апазыцыі

Мы выхоўваліся ў сваім Поразаве за 20 км ад польскай мяжы на традыцыях каталіцкасьці і нейкай прыблізнай польскасьці. Мае бацькі не прымалі афіцыйнай беларускай культуры. Мой бацька гаварыў: во — лыгачы. І зьвяртаўся да нас, братоў: "Віцю, Юра ці Стась, пашукайце "Вольнай Эўропы". Я ніколі не забуду, як браты аднойчы прыцёглі на санках радыё "Урал-57" зь зялёным вочкам настройкі. Мы ўсёй сям'ёю сядалі вакол яго і слухалі польскую радыёпраграму з Мюнхена. Беларус у нашым уяўленьні быў чалавекам, які любіць камуністычную партыю, правіцяльства, потым радзіму і імкнецца забыць сваю мову, каб трапіць у камунізм.

### Ліцьвіны яшчэ існуюць?

Калі я прыехаў у Менск вучыцца, я адчуў сябе страшэнным палякам. Хадзіў на кальварыйскія могілкі, гэта было адзінае месца ў гэтым савецкім горадзе, дзе мая душа супакойвалася. А потым сустрэўся зь людзьмі, якія на ўсё жыцьцё памянялі мае погляды. Апошнюю кроплю ў гэтую бочку аднойчы дадаў мой бацька. У нас дома быў Міхась Раманюк. Ён даказваў што мы —беларусы, а я — што палякі. А бацька стукнуў кулаком і сказаў, што мы — ліцьвіны.

Сапраўды, нас так называлі палешукі з суседняй вёскі: во, ліцьвіны прыйшлі балота касіць.

— А яны не лічылі сябе, скажам, украінцамі?

— Не, ні ў якім разе, я такога ніколі ня чуў. Для мяне вельмі дорага, што ўсе мы — нашчадкі жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, я сябе такім адчуваю і сёньня.

— Як Чэслаў Мілаш?

— І як Вітольд Іваноўскі (наш агульны сябра, які ажно 25 гадоў — ад Хрушчова да Гарбачова быў гарадзенскім карэспандэнтам "Звязды". Ягоны прадзед удзельнічаў на баку паўстанцаў у бoі пад Мілавідамі. — С.А.).

### Паўстанцкі Хрыстос

— Дарэчы, я ад старых людзей чуў, што далучыцца да паўстанцаў Кастуся Каліноўскага (Віктар — ягоны зямляк. — С.А.) называлася "пайсьці ў палякі". Іхні пункт збору быў непадалёк — каля вёскі Студзенікі. У Поразаве на могілках ёсьць дзьве магілы паўстанцаў — Яна Дмухоўскага і Казіміра Шалкевіча. Простыя помнікі з каменьня і вялікі гранітны крыж.

За маёй вуліцай Якуба Коласа (былой — Я.Пілсудзкага) на ўзгорку стаіць капліца, пабудаваная ў гонар кагосьці з паўстанцаў. Саветы яе разбурылі, а нядаўна людзі зноў аднавілі капліцу. Здарылася гэта ў 60-ыя гады. Расказвалі, што разьбітага гіпсавага Хрыста зь яе знайшлі потым пастухі. Гісторыя паўтараецца. А ў мяне напісалася рамантычнае апавяданьне, якое ты ведаеш і якое мала хто чытаў. "Дзьве сьмерці Сыльвэстра Лаўрыновіча". Яно пра тое, як вясковага пробашча выклікалі да хворага паўстанцкага камандзіра, і як ён застаўся з паўстанцамі і ўзначаліў іх. Але атрад быў разьбіты, а ён загінуў.



Задума апавяданьня была навеяна тым, што я хадзіў на старыя могілкі, стаяў каля магіл і капліцы, уяўляў. Самае цікавае ў гэтым жыцьці якраз тое, што мы выдумваем. Я выдумаў, але гэта набыло рэальныя рысы. Я кінуў пісаць прозу. Атрымаў прэмію за лепшы дэбют у часопісе і зразумеў, што гэта рабіць я таксама ўмею. Працягваю пісаць вершы, песьні. Я вадалей і шукаю новага, каб зрабіць усё што хачу.

— Проста скончыў з прозай і ўсё? Выпадак нестандартны: празаік стаў паэтам...

— Жыцьцё складанае пачалося. А каб нешта закончанае напісаць, трэба, каб ніхто табе не перашкаджаў. Вось чаму ёсьць дамы творчасьці, чаму людзі ўцякаюць на вёску. Але я нічога не выкідаю. Шмат чарнавікоў — і ўсе захаваныя. Мая жонка крычыць. Аднак я ведаю, што заўжды змагу вярнуцца да задумы і ўвасобіць яе. Я не выпускаю кніжак, але затое маю ўжо два магнітальбомы з уласнымі песьнямі. Мне здаецца, што гэта нічым ня горш за кніжкі.

У нашых умовах пакуль тваё апавяданьне дойдзе да чытача, міне шмат часу. З песьнямі гэта адбываецца хутчэй. А тым больш я заўсёды азіраўся назад: ці ня едзе за мной вершнік на срэбным кані з касою ў руках. Гэта падганяе. Пакуль яго няма, але ўсё адно хочацца пасьпець у жыцьці зрабіць болей.

### Басовішча

Дагэтуль некаторыя айчынныя сьпевакі едуць па ўдачу да Масквы. Шалкевіч, наадварот, накіраваўся ў Эўропу, але далёка не заехаў — перабраўся на другі бок мяжы і зрабіўся песьняром Беласточчыны. Вось што ён сам пра гэта думае.

— Посьпех прыходзіць тады, калі ты нейкім чынам выказваеш свае думкі, якія, на вялікае шчасьце, зьяўляюцца думкамі вялікай колькасьці людзей. І гэта атрымалася са мной не ў Беларусі, дзе на мяне шыкалі ня раз і гаварылі: зра ты эта пішаш такое, нехарашо. На Басовішча я прыехаў аднойчы мала знаным бардам, а выйшаў зоркай. Мяне ўсе добра там зразумелі, у мяне адразу вырасла за сьпінай шэсьць параў крылаў. Я стаў многа пісаць і дабіўся на Басовішчы Gran-prix — права бясплатнага запісу сваёй касэты ў беластоцкай студыі Польскага радыё з удзелам майго ансамблю, што я і зрабіў.

Я люблю Беласточчыну, яна — частка маёй душы. Бываю ў тых мястэчках і мне здаецца, што завярну за дом, а там мая хата, маці сядзіць. Я ніколі не праводзіў мяжы паміж Беласточчынай і Гарадзеншчынай, гэта адзіны непарушны рэгіён. Нам усё крычаць, што мы з рускім народам брацьця, а што з палякамі мы хіба не браты?

### Сны пра Беларусь больш ня сьняцца

— Я ўжо гаварыў пра "Урал-57". Дзякуючы яму я слухаў Варшаву, палюбіў песьні Сэвэрына Краеўскага, Чэслава Немана, Тадэвуша Возьняка, Марэка Грэхуты. Яны больш сьпявалі аб чалавечых пачуцьцях, тым часам як зь Менску даносіліся аднолькава бадзёрыя сьпевы пра "нашу долю шчасную — родную калгасную".

Сёньня для мяне ёсьць блізкія і сярод беларускіх бардаў. Андрэй Мельнікаў, якога я называю апошнім шляхціцам Вялікага Княства на ўсходніх рубяжах Рэчы Паспалітай. Нейкі храніст калісьці з жахам апавядаў пра дробную беларускую шляхту, якая сама басанож возіць гной, але мае шаблю пры сабе — на ўсякую прыгоду. Ён мне чымсьці нагадвае такога шляхціца.

Потым мне падабаецца яшчэ адзін, досыць малады гомельскі бард Дзіма Бартосік. Ёсьць таксама цікавы сьпявак у Жодзішках (Смаргонскі раён) Алег Мізула. Пачало нешта сур'ёзнае нараджацца і на вельмі нармальным узроўні. Скончыліся песьні пра тое, што нам сьняцца сны аб Беларусі.

### Габрайскія сьпевы

Шалкевіч да ўсяго яшчэ і сьпявак гарадзенскага габрайскага ансамблю. Большасьць ягоных сымпатыкаў успрымае гэта зь цікавасьцю, некаторым жа песьні пра шахер-махер і шлягер пра самавар на ідыш вельмі не падабаюцца, выклікаюць скрыўленыя ўсьмешкі і зьедлівыя жарты. Але Віця — шматколерная асоба, яго цікавіць усё.

— Мода на габрайства існуе, яна ідзе з Масквы. Мне гэта таксама цікава. Наш ансамбаль граў толькі габрайскую музыку, а калі прыйшоў я, дык сталі выконваць і польскія, беларускія песьні, расейскія рамансы. Я не прафэсійны музыкант, таму заўсёды любіў прафэсійных музыкантаў, яны для мяне самыя цікавыя людзі. Мне зь імі вельмі камфортна. Я люблю зьмяняць абставіны і бываць сярод розных людзей. На першым габрайскім фэстывалі ў сталіцы мы выглядалі вельмі калярытна. Усе астатнія дасталі нейкія кніжкі, сьпеўнікі і не адрывалі ад іх вачэй, мы ж выступалі вясёла, сьпявалі жартаўлівыя песьні.

### Драўляны малаток

У Горадні Шалкевіч добра вядомы таксама як чалавек, які прадаў на аўкцыёнах дзясяткі крамаў, дамоў, кватэр, спрабаваў прадаць лазьню. Аляксандар Маліноўскі — супрацоўнік гарадзкога аддзелу прыватызацыі гаворыць: можна знайсьці лепшага за Шалкевіча аўкцыяніста, можна — горшага, але такога як Шалкевіч ня знойдзеш.

— Ён мае ў нечым рацыю. Гэта толькі здаецца, што праца вельмі лёгкая. Я ўжо спрактыкаваны, правёў каля 40 аўкцыёнаў па ўсёй Беларусі. Але колькі нэрваў гэта каштавала! Цяжэй за ўсё было, аднак, напачатку, я быў адным зь першых. Калі будзе вялікі суд, дык мне скажуць, колькі я ўсяго прадаў, сам я не лічыў, але думаю, што гэтага ня здарыцца...

Шалкевіч, натуральна, выйграе тым, што ён і паводле адукацыі, і паводле схільнасьцяў — актор, прычым хутчэй камэдыйны. Таму ён можа выйсьці на трыбуну з драўляным малатком, з чырвоным бантам на штрыфэлі і ў славутай кепцы, павіншаваць бізнэсмэнаў, картавячы, з рэвалюцыйным сьвятам, заклікаць купляць маёмасьць і ўключыць для публікі да болю знаёмы Інтэрнацыянал. Ён можа, зьмяняючы маскі, выступіць у некалькіх ролях у "Тутэйшых", напісаць для спэктакля песьню, якую беластоцкае радыё спачатку перадасьць, а потым забароніць па просьбах слухачоў, абражаных радкамі "залаялі сабакі, прыехалі палякі і скора стала тых палякаў як сабак".

### Побач з амбонам

Мабыць мая задача была зацяжкая — расказаць пра чалавека, пра якога досыць шмат ведаеш. Напрыклад, Шалкевіч — працаўнік першай у БССР польскай радыёпраграмы, дэкляматар Міцкевіча на першых польскіх вечарынах. Шалкевіч дапамагае ксяндзу праводзіць у Фарным касьцёле першыя беларускія набажэнствы, чытае з эвангэльля сваім добрым акторскім голасам. Ва ўжо згаданай песьні пра Нясьвіж ёсьць наступныя радкі: "Зайсьці ў касьцёл, на лаву ціха сесьці, Ружанец за памерлых згаварыць. За вокнамі касьцельнымі дрыжыць старое радзівілаўскае неба, як дзьвесьце-сто гадоў таму. Чаму ты так далёка?"

— Што датычыць маіх адносінаў да касьцёла, царквы, мне падабаюцца храмы, падабаецца ступаць па каменных плітах і адчуваць, што па іх калісьці хадзілі мае дзяды і прадзеды. Але мне не падабаецца тое, што ксяндзы часам пачалі ператварацца ў Крыловых і Ляфантэнаў, якія адыходзяць ад рэальнага жыцьця і пачынаюць апавядаць байкі.

У мяне ёсьць пэўная складаная маральная праблема, я прыходжу ў касьцёл і хачу дазнацца, як мне яе вырашыць. Мае бацькі заўсёды хадзілі раіцца да ксяндза. Касьцёл, па-мойму, гэта перадусім дзеяньне, дапамога. Выходзіць па сьвятах з харугвамі і крапіць сьвятой вадою — гэта яшчэ ня ўсё. Пакуль касьцёл стаў займаць у маім жыцьці менш месца. Паглядзіш: каталікі-каталікі, а як галасаваць, дык галасуюць як звычайныя савецкія людзі.

**Сяргей Астраўцоў**

---

Занатоўкі эгаіста

Адам Глёбус

# Індыйская сучаснасьць



Індыя — краіна чырвонага пылу. Індыя — царства гліны і белых кароў. Індыя — край зялёнай вады, глухіх сьценаў і шэрых людзей.

Як толькі мой самалёт прызямліўся ў Дэлі і адчыніў дзьверы, у горле запяршэла і запякло. Вапняковы пыл і раскаленыя газы ўварваліся й разьліліся ў лёгкіх.

Над Дэлі вісела воблака фіялетавага смогу. У вачах зьявілася рэзь і сталі сьлёзы.

Індыя не вітае падарожнікаў. Індыя не заўважае калянізатараў і чужынцаў. Індыя, як Кітай і Расея, не дзяржава, а ўшчэнт састарэлая цывілізацыя.

Я ступіў на гарачы бэтон аэрадрому і пабачыў безьліч трапаў з надпісам KAZAHSTAN.

На беразе цэмэнтавага пляцу ўзвышаліся гурбы пяску і каменьня. На іх сядзелі канчаткова худыя шэраскурыя людзі. Яны ветліва дэманстравалі зубы, па якіх можна было здагадацца пра ўзрост і пол. Лётчык сказаў, што гэта тамтэйшыя будаўнікі. Я паверыў яму толькі тады, калі да будаўнікоў прыехаў на ровары яшчэ адзін індус ў чалме і раздаў прывезеныя на прычэпе шуфлі. На пабітым іржою рулі зіхацеў чырвоны сьцяг.

Індыя парушыла каставую сыстэму, а сацыялізм не прывіўся на яе тэрыторыях.

Змучаны пылам і сьпёкаю я вярнуўся ў самалёт, дзе мяне сустрэлі два нізенькія мужчынкі ў памечаных пінжачках. Адзін сказаў, што тут Індыя, што ён boss і я вінен пяць даляраў. Паказаўшы на падлогу салёна, я прамовіў груваскае BELARUS. Паліцыянты папрасілі адзін даляр. Толькі просьбы іх былі марныя.

Лётчык запэўніў, што ўсе індусы такія.

Калі самалёт узьляцеў над Дэлі, я не глядзеў у ілюмінатар.

Індыя — цывілізацыя мінуўшчыны і будучыні. Індыя — абшар жудаснай сучаснасьці.



